СВАБОДА
№4 1—7 лютага 1994 г.
Кошт 50 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар **Ігар ГЕРМЯНЧУК**
Заснавальнік **Павал ЖУК**
Выдавец **«Газэта СВАБОДА», Ltd.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск, вул.Іванаўская, 56**

## С.Шушкевіч: «Я ня Чэрчыль»

**На панядзелак, 31 студзеня, была паабяцаная прэс-канфэрэнцыя Станіслава Шушкевіча. Аднак раніцай гэтага дня прэс-служба ВС дала журналістам «адбой», параіўшы «з тыдзень пачакаць». Мы патэлефанавалі С.Шушкевічу на лецішча.**

**— Станіслаў Станіслававіч, добры дзень. Як Вашае здароўе? Як сябе пачуваеце?**

— Цудоўна. Шчыра кажу, што, акрамя жаданьня выпіць, няма ніякіх іншых жаданьняў з пункту гледжаньня здароўя. І выпіць не лякарства, а гарэлкі. Гэта ў мяне добры паказьнік — ёсьць і быў заўсёды.

**— Калі Вы ўсё ж зьбіраецеся прыехаць у Менск і правесьці прэс-канфэрэнцыю?**

— Пакуль што не хачу, зьбіраюся з думкамі.

**— Чым плянуеце заняцца ў бліжэйшы час?**

— Спачатку хачу адпачыць, бо за апошнія гады я меў у агульнай суме дзесяць дзён адпачынку, гэта мне не падабаецца, і я хачу неяк выраўнавацца.

**— Ці тэлефанаваў хто з-за межаў Беларусі пасьля Вашае адстаўкі?**

— Званілі.

**— Хто, калі не сакрэт?**

— Сакрэт. Скажу толькі, што вельмі добрыя людзі і маю добрыя запрашэньні (у тым ліку за межы СНД) выступіць з палітычнымі лекцыямі.

**— Былі зьвесткі, нібыта Уладзімер Шумейка прапанаваў Вам пасаду Старшыні міжпарляманцкай асамблеі СНД.**

— Гэта ўсё блытаніна, і я ня ведаю, адкуль яна пайшла. Па-першае, гэта не Шумейкава прэрагатыва. Гэта павінны вырашаць кіраўнікі парлямантаў усіх краінаў СНД.

*(Працяг на 2-й стар.)*

# Адстаўка Шушкевіча паскорыць канец рэжыму

Можа здарыцца так, што нашую газэту зачыняць. Альбо забароняць друкаваць СВАБОДУ тут, на Беларусі (першыя сымптомы ўжо ёсьць). У такім выпадку могуць быць затрымкі з выхадам нумароў, бо друкавацца давядзецца за мяжою, як гэта было ў 1990 г. Але выходзіць СВАБОДА будзе. Нягледзячы ні на што!

Няма ніякага сумневу, што кіроўны рэжым пачне зараз актыўна і паўсюдна «закручваць гайкі» — у грамадзкім жыцьці, у эканоміцы, у галіне правоў і свабодаў. Апошнім часам ім пастаянна карцела гэта зрабіць — аж рукі сьвярбелі. Але перашкаджаў Шушкевіч.

За 885 дзён свайго кіраваньня Станіслаў Шушкевіч мала чым дапамог дэмакратыі. Але сам факт ягонай прысутнасьці на пасадзе кіраўніка дзяржавы троху стрымліваў намэнклятуру. Яны вымушаныя былі азірацца на яго (хоць рэальнай улады ў Шушкевіча было менш, чым у любога высокапастаўленага саўмінаўскага чыноўніка). Цяпер яны разьвязалі сабе рукі. Можна красьці не азіраючыся.

Гэта быў іхны апошні шанец зьняць Шушкевіча, яны гэта разумелі і грунтоўна да гэтага рыхтаваліся. Галасаваньне аб адстаўцы двух «сілавых» міністраў было трэніроўкаю. Шушкевіч іх фактычна «здаў», не зрабіўшы ніякіх крокаў на абвастрэньне сытуацыі (ці то тактычная памылка, ці інстынкт самазахаваньня?), якія трэба было зрабіць яшчэ тады, калі быў абнародаваны вядомы антысаўмінаўскі ліст Э.Шыркоўскага і Ул.Ягорава. Але Шушкевіч ня выступіў, нават калі справа дайшла да галасаваньня аб міністрах. Не хацеў злаваць воўчую зграю? Ён памыліўся таксама, калі на плаху паклалі ягоную галаву — у сваім апошнім слове Старшыня пачаў у іх «прасіцца». Зянон Пазьняк параўнаў гэта з трагедыяй ахвяры, якая спрабуе выпрасіць жыцьцё і гэтай сваёй слабасьцю яшчэ больш распаляе забойцу, і той ужо не спыняецца — «трэба ведаць крымінальную псыхалёгію».

Калі абвесьцілі вынікі галасаваньня, намэнклятура была на сёмым небе: ціснулі адзін аднаму рукі, абдымаліся, ледзь не цалаваліся — наймярзотная карціна. Здаецца, для іх саміх было нечаканым, што за адстаўку Шушкевіча набралася аж 209 галасоў. Але тут няма ніякай сэнсацыі: прыкладна чвэрць гэтых галасоў самым прымітыўным чынам была купленая. Напрыклад, некаторым дэпутатам-"цэнтрыстам" за адстаўку Шушкевіча паабяцалі кватэры ў Менску (шляхам пераводу на сталую працу ў Вярхоўны Савет). Калі цікавяць канкрэтныя імёны — глядзіце рэпартажы з сэсіі: кандыдатуры новых «прафэсійных парлямантарыяў» неўзабаве будуць пастаўленыя на галасаваньне.

Словам, брудная справа рабілася бруднымі мэтадамі. Па камандзе з Саўміна на кватэры ў Шушкевіча адразу была адключана спэцсувязь і зьнятая ахова. Гатэль «Кастрычніцкі», дзе жывуць дэпутаты, цэлую ноч «гудзеў», гарэлка, кажуць, лілася ракою — сьвяткавалі «пірамогу».

А выбаршчыкі тым часам слухалі навіны і нічога не разумелі: аказваецца, зьнялі Шушкевіча, а ня Кебіча... «Дурдом!» З тым і пакладліся спаць.

Відаць, яшчэ пару месяцаў гэтыя выбаршчыкі будуць драмаць, даядаючы апошні мех бульбы. Увесну, можна не сумнявацца, яны прыйдуць да гэтага самага «дурдома» разганяць «пацыентаў».

Такім чынам, новыя выбары ніяк ня ўдасца адцягнуць на канец году, як гэта плянуюць Кебіч і кампанія. Адстаўка Шушкевіча і прыход на ягонае мейсца міліцэйскага генэрала Грыба радыкалізавалі сытуацыю. Выбары могуць адбыцца ўжо ў траўні.

**Ігар ГЕРМЯНЧУК**

## Бі-Бі-Сі пра «паўзучы пераварот»

**Зьмяшчэньне Шушкевіча з пасады Старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі выклікала шырокі рэзананс у сусьветных сродках масавай інфармацыі. Ацэнкі гэтага факту прыкладна аднолькавыя: «камуністычны рэнэсанс», «беларускі першамай» і г.д.**

Не абыйшла гэтую падзею ўвагай і радыёстанцыя *BBC*, карэспандэнт якой узяў інтэрвію ў экспэрта па Беларусі, прафэсара Лёнданскага ўнівэрсытэту **Джыма Дынглі**.

Ён лічыць, што «Шушкевіча зьнялі таму, што ён даволі доўгі час адмаўляўся сьледаваць указцы парляманту і не згаджаўся падпісваць пагадненьне аб калектыўнай бясьпецы з Расеяй».

*(Працяг на 2-й стар.)*





*Янка КУПАЛА*

**Дэпутату N.N.**

*Пасаромся, дэпутаце,*
*Хоць сваёй чорнай бялізны,*
*Ты ж другой, кром Беларусі,*
*Не павінен мецъ айчызны.*

*А калі так вельмі хочаш*
*Мецъ і мачыху, кром маткі,*
*То йдзі вон ад нас, шаноўны!*
*Забірай свае манаткі.*

*Замест пасьвіцца над праўдай,*
*Пасьвіць душы йдзі ў загіне,*
*Хоць табе йдзе лепш да твару*
*Пасьвіць крадзеныя сьвіньні.*

1908 г.

# За адзін даляр — 60 000 “зайцаў”

## Такую пэрспэктыву рыхтуе ўрад Кебіча

**У сувязі з чуткамі пра рублёвую зону сытуацыя на валютным рынку Беларусі доўгі час заставалася нестабільнаю. Рэзкае зьніжэньне курсу даляра на пачатку студзеня выклікала нават паніку сярод пэўнай часткі насельніцтва. Але чуткі засталіся чуткамі, і цяпер курс даляра няўпынна расьце, пераўзышоўшы сьнежаньскія паказьнікі.**

**Па камэнтар да сёньняшняй сытуацыі і пэўныя прагнозы карэспандэнт СВАБОДЫ зьвярнуўся да намесьніка дырэктара па зьнешнеэканамічнай дзейнасьці аднаго з найбуйнейшых банкаў Беларусі. Прапануем вытрымкі з гэтае гаворкі, захоўваючы ананімнасьць на просьбу суразмоўцы.**

«...Рублёвая зона новага тыпу — яшчэ адзін міт, з дапамогаю якога ўрад хоча засьцерагчыся ад сацыяльнага выбуху. Маю цьвёрдае перакананьне, што рублёвай зоны ў дакляраваным урадам выглядзе ня будзе, а калі й будзе, дык вельмі непрацяглы час: ёсьць аб'ектыўныя эканамічныя законы. Зрэшты, пра гэта сьведчыць і рост курсу даляра, які мы назіраем цяпер. Паводле маіх падлікаў, у сьнежні 1994 г. ён дасягне адзнакі ня менш як 60.000 беларускіх рублёў за 1 USD, калі ўрад будзе працягваць сваю інфляцыйную палітыку.

...Што да ўласна банкаўскай сфэры, дык у Расеі праводзіцца палітыка, якая яшчэ больш-менш спрыяе банкаўскай справе. У нас жа дзяржава адбірае больш за палову прыбытку ў выглядзе разнастайных падаткаў, не даючы як сьлед разгарнуцца. Калі мы раптам нейкім чынам усё ж прыйдзем да адзінае рублёвае зоны, пры сёньняшнім заканадаўстве нашыя банкі ня вытрымаюць аніякай канкурэнцыі з расейскімі.

...У кожным разе мы надаём вялікае значэньне супрацоўніцтву з заходнімі банкамі. Да прыкладу, наш банк мае 55 карэспандэнцкіх рахункаў у банках Заходняй Эўропы да Амэрыкі. З другога боку, мы адкрылі ў сябе рахункі 31 замежнага банка. Лічу, што беларускія банкі абавязкова павінны пашыраць свае сувязі з замежнымі.

...Перакананьнямі я чалавек, ад палітыкі далёкі. Але як прафэсіянал на бліжэйшую пэрспэктыву гляджу без аптымізму: ні на які фінансавы, дый эканамічны ўвогуле, прагрэс пры сёньняшніх заканадаўцах і асабліва — пры ўрадзе Кебіча разьлічваць не даводзіцца. А ведаў, прафэсійнага майстэрства, цікавых ідэяў банкі Беларусі маюць дастаткова...»

**Р.П.**

# Рабочыя патрабуюць свае грошы

**13 студзеня ў Горадні рабочыя (каля 500 чалавек) заводу аўтаагрэгатаў, пакінуўшы працу на адну гадзіну раней тэрміну, прыйшлі на пляц Леніна.**

Каля помніка правадыру яны наладзілі імправізаваны мітынг, а потым рушылі да будынку аблвыканкаму, што побач. Рабочыя патрабавалі выплаты заробку за сьнежань. Былі таксама заклікі паслаць дэлегацыю, каб спагнаць грошы з расейскіх прадпрыемстваў (з КАМАЗу дый іншых), вінаватых заводу аўтаагрэгатаў каля мільярду расейскіх рублёў.

Стыхійная акцыя пратэсту дала свае вынікі. Назаўтра рабочым выплацілі 50% заробку, паабяцаўшы на наступным тыдні выдаць астатнія грошы.

**А.С.**

# Да нас прыляцела Swiss Air

**Заклік «Летайте самолетами Аэрофлота» быў адной з азнакаў савецкага часу. Зрэшты, ніякімі іншымі самалётамі, акрамя аэрафлотаўскіх, лятаць тады не выпадала, бо іх папросту не было. Сёньня на Беларусі, акрамя *Трансаэра* — спадкаемцы былога *Аэрафлоту*, — працуюць некалькі заходніх авіякампаніяў.**

Ужо даволі цьвёрда асталяваліся ў нас нямецкая *Lufthansa* ды польскі *Lot*. 2 лютага адбудзецца афіцыйнае адкрыцьцё Менскага прадстаўніцтва швайцарскай кампаніі *Swiss Air*. Але гэта будзе проста ўрачыстая імпрэза, а сталую працу фірма пачала яшчэ ўвосень.

*Swiss Air* ёсьць сябрам *European Quality Alliance* — аб'яднаньня лётных фірмаў, куды яшчэ ўваходзяць аўстрыйская *Austrian* ды скандынаўская *SAS*. *Swiss Air* прадстаўляе на Беларусі інтарэсы ўсіх траіх, гэтаксама як *Austrian* у Кіеве, а *SAS* у Вільні: разам рабіць бізнэс прасьцей ды выгадней.

З гутаркі з супрацоўнікам *Swiss Air* Дзьмітрам Падалінскім карэспандэнт СВАБОДЫ даведаўся, што ў фірме, апрача двух швайцарскіх шэфаў, працуюць шасьцёра менчукоў, усе яны выпускнікі інстытуту замежных моваў. Паводле словаў Дз.Падалінскага, арганізацыя авіярэйсаў — рэч вельмі цікавая, ёсьць у ёй свая філязофія і свая паэзія. Прынцып *Swiss Air*, як, зрэшты, і іншых кампаніяў, такі: ня трэба лётаць адусюль і ўсюды, трэба прадугледзець рацыянальную сыстэму перасадак у базавых пунктах. Зь Менску нам прапануюць двойчы на тыдзень рэйсы ў Цюрых і тройчы — у Вену. А ўжо адтуль можна вылецець практычна ва ўсе пункты сьвету: прыкладам, зь Цюрыху *Swiss Air* выконвае рэйсы ў 130 кірунках на ўсе кантынэнты, акрамя Аўстраліі. Кампанія забясьпечвае сэрвіс найвышэйшага ўзроўню на ўсіх этапах — ад набыцьця білета і да выхаду з аэрапорту.

Кошты паслугаў *Swiss Air* стандартныя: як і практычна ўсе эўрапейскія авіякампаніі, *Swiss Air* уваходзіць у *IATA* — міжнародную арганізацыю, сябры якой паміж іншых падпісалі і тарыфнае пагадненьне. Кошты залежаць ад мноства розных чыньнікаў, але, да прыкладу, білет у Лёндан праз Цюрых зь фіксаванаю датаю каштуе 735 даляраў.

Дз.Падалінскі прызнаўся, што праца на постсавецкім беларускім рынку нялёгкая й спэцыфічная: даводзіцца паступацца многімі прынятымі ў сьвеце прынцыпамі арганізацыі авіярэйсаў. Але, прыйшоўшы аднойчы, кампанія прыйшла назаўсёды, лічыць Дз.Падалінскі. Так што — лётайце самалётамі *Swiss Air*.

**Усевалад РАГОЙША**

# Трагікамэдыя ў судзе

## Белдзяржфілярмонія супраць Беларускай каталіцкай грамады

**У Кастрычніцкім судзе Менска, які месьціцца на вул. В.Дуніна-Марцінкевіча, ужо двойчы зьбіралася паседжаньне, на якім разглядалася пазоўная заява Белдзяржфілярмоніі.**

Сутнасьць справы: Белдзяржфілярмонія, у распараджэньні якой знаходзіцца заля камэрнай музыкі на Залатой Горцы, падала пазоў непасрэдна да старшыні Беларускае Каталіцкае Грамады 39-гадовага Фэлікса Янушкевіча і старшыні касьцельнай рады Сьвятатраецкай парафіі на Залатой Горцы 31-гадовага Алеся Бяляцкага з патрабаваньнем кампэнсацыі за сарваныя ў красавіку 1993 г. канцэрты, паколькі лічаць «господ» Янушкевіча і Бяляцкага асноўнымі арганізатарамі і натхняльнікамі «акции по захвату зала камерной музыки».

Вытрымка зь пазоўнай заявы: «12 апреля 1993 г., после проведения службы, верующие общины, без всяких на то законных оснований, отказались освободить зал камерной музыки и круглосуточно находились в нем до 5 мая.

Неправомерными действиями верующих была полностью парализована концертная деятельность, которая должна была проводиться по плану международного фестиваля музыки «Минская весна», были сорваны 9 концертов и репетиции по ним. В результате филармонии причинен существенный материальный ущерб в размере 311.569 рублей, что значительно осложнило и без того крайне тяжелое финансовое положение филармонии...»

Калядны падарунак «организаторы» Ф.Янушкевіч і А.Бяляцкі атрымалі ў выглядзе судовай позвы на 29 сьнежня 1993 г. У прысутных на залі склалася ўражаньне, што суд настроіўся досыць рашуча. Паколькі паседжаньне пачалося на расейскай мове, адказьнікі ўнесьлі пратэст аб тым, каб суд вёўся на дзяржаўнай мове. Судзьдзя адказала: «По этому вопросу вам нужно обращаться в Верховный Совет», — і адхіліла пратэст. Суд працягваўся.

Наступны канфуз адбыўся пры высьвятленьні мейсца працы спадара Ф.Янушкевіча. Пачуўшы ў адказ, што ён «сябра Саюзу мастакоў Беларусі», судзьдзя нэрвова перапытала: «Кто? Что это такое?» — што і стала падставаю для наступнага пратэсту адказьнікаў аб выкарыстаньні перакладніка. Пытаньне бурна абмяркоўвалася двума бакамі. Пры гэтым сваёй актыўнасьцю вызначылася пракурор. Як высьветлілася, яна зьяўляецца вялікаю прыхільніцаю расейскае мовы. Задаючы пытаньні сп.Бяляцкаму, яна ўрэшце падлавіла Алеся, што ён усё ж такі нешта разумее па-расейску. Пратэст спачатку адхілілі. Але падняўся сп.Янушкевіч ды запратэставаў, што ён ніколі й нідзе не карыстаецца расейскаю мовай, зь дзяцінства размаўляе толькі па-беларуску. Гэта нарэшце задаволіла судзьдзю. Яна мусіла прыняць пратэст адказьнікаў. На гэтым першае паседжаньне і скончылася. Яно было перанесена на 18 студзеня 1994 г.



Але да 18 студзеня суд ня здолеў знайсьці перакладніка і таму паседжаньне зноў адклалі — да 1 лютага.

У размове з судзьдзёй Ф.Янушкевіч адзначыў, што падача ў суд пазова на адзіную беларускамоўную парафію, магчыма, мае і іншы аспэкт: апроч філярмоніі, хтосьці яшчэ зацікаўлены ў «судовай разборцы» з канчатковаю мэтаю зьліквідаваць парафію на Залатой Горцы.

Пазыцыя Фэлікса Янушкевіча грунтуецца на Статуце Беларускае Каталіцкае Грамады. Мэта БКГ — вяртаньне касьцельнай і царкоўнай маёмасьці вернікам Беларусі.

Сымбалічна, што на вуліцы, якая носіць імя выдатнага айчыннага пісьменьніка-клясыка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, у нас на вачох разыгрываецца чарговая трагікамэдыя. Ці знойдзецца на Беларусі таленавітае пяро, каб у мастацкай форме пакінуць нашчадкам адмысловы фарс-вадэвіль — люстрадзён сучаснага жыцьця?

**Юзэфа КАРЛОВІЧ**

# Вакол рэктарскага крэсла

Як мы ўжо паведамлялі, выкладчыкі-беларусісты дамагліся адстаўкі рэктара Гарадзенскага ўнівэрсытэту сп.Бадакова. Іх не задавальнялі тэмпы беларусізацыі ўнівэрсытэту, а таму яны прапанавалі некалькі сваіх кандыдатураў на пасаду рэктара. Асноўнымі лічаць дзьве зь іх: прафэсар Габрусевіч, які адначасова ўзначальвае абласны Фонд культуры, і дацэнт Мілінкевіч, які працуе намесьнікам старшыні гарсавету і працягвае выкладаць ва ўнівэрсытэце. Дарэчы, беларусістаў падтрымлівае і старшыня абласнога Савету С.Домаш.

Плёнам чужой перамогі, аднак, вырашылі пакарыстацца іншыя. Новага кандыдата на рэктара пачалі рыхтаваць яшчэ за паўгода дагэтуль. Кандыдат фізычных навук дацэнт Ківач за некалькі месяцаў стаў доктарам навук, прафэсарам, а да ўсяго яшчэ для яго стварылі пасаду пятага прарэктара. Спадар Ківач вучыўся на адной студэнцкай лаве зь віцэпрэм'ерам Беларусі М.Дземчуком і міністрам адукацыі сп.Гайсёнкам.

Пэўны час здавалася, што беларусісты прайгралі ў сваім змаганьні. Двух іншых кандыдатаў, а таксама ўсіх трох прарэктараў выклікалі ў Міністэрства адукацыі на экспэртную камісію. Неўзабаве міністэрскім загадам рэктарам Гарадзенскага ўнівэрсытэту быў прызначаны сп.Ківач. 24 студзеня а 12-й гадзіне на Навуковай радзе міністэрскія чыноўнікі павінны былі прадставіць новага рэктара. Яны прыбылі ў Горадню напярэдадні падзеі і ўжо сьвяткавалі з новым рэктарам перамогу. Аднак прэзэнтацыі не адбылося.

Паводле нашых зьвестак, перашкодзіў гэтаму старшыня аблсавету С.Домаш. 21-га ўвечары ён вярнуўся з сэсіі ВС, дэпутатам якога абраны нядаўна, і даведаўся аб прызначэньні новага рэктара. Сп.Домаш быў абураны тым, што не палічыліся зь меркаваньнем мясцовых уладаў, а па-другое, прызначылі чалавека, які відавочна не адпавядае задачам беларусізацыі ўнівэрсытэта. І гэта яшчэ пры тым, што на сэсіі Домаш меў кароткую размову зь міністрам Гайсёнкам. Кіраўнік абласной адміністрацыі адшукаў у выхадныя віцэ-прэм'ера Дземчука, які нібыта нічога ня ведаў аб прызначэньні новага рэктара, і выказаў яму праз тэлефон сваю нязгоду.

Паводле інфармацыі з ВС, супраць кандыдатуры Ківача выступаў і Ст.Шушкевіч. Ківач скончыў фізычны факультэт, дзе выкладаў праф. Шушкевіч, а потым быў асьпірантам БДУ, калі Шушкевіч працаваў прарэктарам унівэрсытэта па навуцы.

С.Домаша мог бы задаволіць кампрамісны варыянт, каб пры рэктару Ківачу першым прарэктарам стаў кандыдат ад беларусістаў. Сам Ківач пасьля гэтага інцыдэнту размаўляў зь імі, аднак яны адмовіліся зь ім супрацоўнічаць, бо лічаць, што Ківач ня здатны да пераўтварэньня ўнівэрсытэту ў сапраўды беларускую alma mater.

І ўсё ж у чацьвер 27 студзеня на пашыранай Навуковай радзе ўнівэрсытэту міністар адукацыі Гайсёнак прадставіў новага рэктара — спадара Ківача.

**В.ПЯТРОВІЧ**

Валеры ДРАНЧУК

# Будаваць АЭС на Беларусі — значыць паўтараць чарнобыльскі шлях

Валеры Дранчук, 42 гады. Журналіст. Працаваў у раённым друку, газэце «Звязда», а таксама ў апараце Вярхоўнага Савету і Саўміну. Заснавальнік Зялёнага агенцтва «Неруш-прэс».



**Адзіны журналіст, які пажадаў прысутнічаць на апошнім (30 сьнежня 1993 г.) паседжаньні ўрадавай камісіі па распрацоўцы Дзяржаўнай праграмы разьвіцьця атамнай энэргетыкі на Беларусі, быў вымушаны пакінуць сэлектарную залю Міністэрства энэргетыкі не са сваёй волі, а з прычыны «канфідэнцыйнасьці размовы» пры зачыненых дзьвярах.**

**Ад Зялёнага агенцтва «Неруш-прэс» СВАБОДА атрымала камэнтар з падрабязнасьцямі, якія тычацца ня толькі жорсткіх стасункаў урадавых структураў з журналістамі, але найперш — атамна-энэргетычнай пэрспэктывы Беларусі.**

## Якое надвор'е на Беларусі

Што атамную пэрспэктыву, так бы мовіць, «дзеля дабрабыту Беларусі» прапіхваюць у сродкі масавай інфармацыі досыць актыўна і даўно, вядома ня толькі мне. Той, хто за экалягічную тэму, як кажуць, чапляецца вокам, лёгка прыгадае інтэрвію, камэнтары, артыкулы зь вельмі ўстойлівым камэртонавым гучаньнем, у якіх няцяжка распазнаць, хто гэтую немудрагелістую музыку заказвае і што за ёю ўвогуле стаіць. Стаіць ідэя разьвіцьця атамнай энэргетыкі на Беларусі. Ведаючы, што ад гэткае пэрспэктывы сёньня ўжо дух не займае нават у самага сьпешчанага прагрэсам абывателя, аўтары, з аднаго боку, спрабуюць знайсьці нялюдныя ціхія сьцежкі, якія звычайна шукаюць нашыя нядобразычліўцы, каб правезьці кантрабанду, а з другога — абнародваюць ідэю такім чынам, што кантрабандай яна нібыта і ня пахне.

Яно і зразумела, бо надвор'е на Беларусі чарнобыльскае.

Выданьні, якія пасьпяшаліся шырока рэпрэзэнтаваць апэтыты распрацоўнікаў атамнай канцэпцыі, здаецца, не памкнуліся раскусіць арэшак, падалі максымум аргумэнтаў «за» пры стрымана фармальным мінімуме «супраць». Нотка сумневу калі й пракідвалася, дык больш мімаходзь.

## За здароўе ці за ўпамін?

Мінулым летам, калі часовая ўрадавая камісія (буду дакладны ў яе назове) па арганізацыі работаў, зьвязаных з распрацоўкаю праекту Дзяржаўнае праграмы разьвіцьця атамнай энэргетыкі Беларусі, прыступіла да выкананьня абавязкаў, я стэлефанаваўся зь яе старшынёю доктарам навук Алегам Мартыненкам. Маё жаданьне прысутнічаць на адным зь першых паседжаньняў, натуральна, не было задаволенае. Сп.Мартыненка рашуча адвёў прапанову даць інтэрвію, спаслаўшыся на тое, што пакуль па гэтым пытаньні ў камісіі ня вызначыцца цьвёрдая плятформа, у якой ня будзе сумнявацца ён сам, сустрэчы з журналістамі выключаюцца. Такім чынам, я меў падставу зрабіць папярэднюю выснову, што маю справу з тэмаю, якую выпускаць на бальшакі галоснасьці для пэўных колаў непажадана. У мяне ня ўзьнікла пытаньня, чаму.

Аднак старшыня камісіі пакінуў надзею: напрыканцы году ён будзе гатовы сустрэцца з журналістамі. Я чакаў паўгоду. Карцела спытацца: «Дык за здароўе ці за ўпамін?..»

## Хто вас сюды запрашаў?

У дзень апошняга паседжаньня камісіі, 30 сьнежня, я быў самотным прадстаўніком, так бы мовіць, ад сродкаў масавай інфармацыі, няйнакш, патэнцыйным разбуральнікам «сакрэтнай» канцэпцыі. Мая прысутнасьць была адразу заўважаная, падалася спрэчнаю і выклікала нэрвовасьць у асобных сяброў камісіі. Я выразна адчуў, што трапіў на паласу з аднабаковым рухам, бо мяне без аніякіх падставаў уважылі за чалавека, які абавязкова рухаецца ў бок процілеглы.

Зыходзячы, відаць, з тэзы, што ўсялякае назіраньне церпіць ад асабістых якасьцяў назіральніка, мне прапанавалі варыянты: альбо я пакіну залю, альбо мая інфармацыя мусіць зьведаць «мясцовую» цэнзуру. Я пакінуў залю, і пасьля канфідэнцыйнае размовы пры зачыненых дзьвярах мяне запрасілі, каб давесьці інфармацыю аб прынятым рашэньні: праект перадаць на разгляд у Саўмін. Столькі і было тае інфармацыі.

Праўда, перад тым як выправіць няпрошанага госьця пагуляць, сп.Мартыненка, зьвяртаючыся да мяне і — праз мяне — да маіх калегаў-журналістаў, папрасіў «патрываць яшчэ зь месяц», не распальваць дыскусіяў, якія, на ягоны погляд, могуць «прынесьці нашаму народу толькі шкоду». Просьба падалася мне спэцыфічнаю: патрываць, пакуль урад прыме рашэньне? А фраза міністра энэргетыкі Валянціна Герасімава «хто вас сюды запрасіў?» нагадала, што нашаму брату-журналісту патрапіць на званы абед да кітайскага пасла куды прасьцей, чымся ва ўстанову, якая нібыта працуе дзеля народу.

Праз некалькі дзён агенцтва «Неруш-прэс» распаўсюдзіла інфармацыю пра тое, што камісія на чале з А.Мартыненкам выказалася за магчымасьць і мэтазгоднасьць разьвіцьця атамнай энэргетыкі на Беларусі як найбольш таннай у параўнаньні зь іншымі крыніцы энэргіі.

Цяпер слова за ўрадам, хоць у ягонай пазыцыі можна не сумнявацца. Аднак застаюцца адкрытымі шматлікія пытаньні пэрспэктыўнага кшталту: фінансаваньне будаўніцтва АЭС (дзе ўзяць сумы з мноствам нулёў?); падбор пляцоўкі (што надзвычай праблематычна ва ўмовах Беларусі); гарантыі экалягічнае бясьпекі і надзейнасьці АЭС (шэраг фактараў, у тым ліку так званы чалавечы); нарэшце, ядравая энэргетыка — гэта ня толькі атамныя станцыі, але і цэлы комплекс прадпрыемстваў, зьвязаных з вырабам ядравага паліва, ягонаю перавозкаю, захаваньнем, перапрацоўкаю апраменены матар'ялаў, утылізацыяй адных і скарыстаньнем іншых радыёактыўных адыходаў (да гэтага цыклю дадайце яшчэ праблему дэмантажу АЭС пад «зялёны лужок»!) і гэтак далей.

## Гамлетаўскае пытаньне

Ня буду таіцца, выкажу тое «адно неасьцярожнае слова», якога палохаюцца і ад якога засьцерагаюць журналістаў гарачыя прыхільнікі атамнай пэрспэктывы: я супраць таго, каб на Беларусі будавалі АЭС. Больш за тое, абвясьціў бы мараторыюм на іх будаўніцтва... Але найперш я супраць спробаў вырашаць гэтае пытаньне кялейна-карпаратыўна, у цішы міністэрскіх кабінэтаў і ўбаку ад грамадзкае думкі.

Людзям трэба ведаць ня толькі так званую «праўду» пра вяртаньне ў пячору, у нібыта суцэльны змрок, да нібыта дзедаўскай лучыны і гэтак далей, але і поўную праўду пра тое, што ёсьць атамная энэргетыка, што нясе з сабою разьмяшчэньне атамных канглямэрацыяў. Зрэшты, ці ня той гэта рэдкасны жахлівы выпадак, калі аргумэнты — побач з намі, у вобразе нябачнага монстра, які апустошыў поўдзень Беларусі, пазбавіў радзімы мільёны людзей? Той выпадак, той...

Калі палітычнае рашэньне будзе прынятае на карысьць атамнай пэрспэктывы — можна лічыць, мы на пачатку чарговага — ядрава-энэргетычнага — вітка прагрэсу, а значыць, новага вітка экалягічнага ўрону, які непазьбежна абрынецца на нашых дзяцей і ўнукаў мноствам праблемаў, як прадказальных, так і непрадказальных сёньня. «Быць ці ня быць» у дачыненьні да АЭС напраўду гучыць па-гамлетаўску, бо пры такой пастаноўцы пытаньня кладзецца на шалі як бы сама існціна, і ўсё залежыць ад нас, пераважыць яна ці не; па сутнасьці — ці пераважыць істотнае, разумнае, каштоўнае. І ня трэба казаць пра адсутнасьць крытэрыяў. Яны ўжо ўнутры нас.

## Альтэрнатыва — не бязьдзейнасьць

Мне могуць задаць пытаньне: калі ты гэтакі «зялёны» і дбаеш пра чысьціню Беларусі, у чым тады, на твой розум, альтэрнатыва АЭС? Цалкам падзяляю і патас пытаньня, і погляд-адказ, выказаны раней за мяне: альтэрнатываю не павінна заставацца нашая бязьдзейнасьць.

Заслуга праекту ўжо ў тым, што ён ёсьць. Заслугаю грамадзтва цяпер няхай станецца факт ягонага ўсебаковага крытычнага асэнсаваньня і поўнага адхіленьня на карысьць мноства іншых варыянтаў, якія б стваралі альтэрнатыву.

Ледзь ня здрадаю выглядае рашэньне Акадэміі навук. Відаць, зь інтарэсаў мэркантыльна-выжывальных (ці, прасьцей, інтарэсаў пракорму) гэтая шаноўная ўстанова падтрымала праект праграмы, хоць, ведаю, сярод аўтарытэтаў навукі ёсьць нямала даўніх апазыцыянэраў як да АЭС, так і да асобных падыходаў, выкладзеных у праекце.

Прапагандысцкі махавік памалу-паціху будзе раскручвацца паводле запісу ў праекце дзяржпраграмы: фармаваць грамадзкую думку на карысьць разьвіцьця атамнай энэргетыкі. Проста і даступна.

Як тут, урэшце рэшт, ня ўзяць да галавы, што дзяржаўны рэжым на Беларусі застаецца антыэкалягічным, што ядравую пэрспэктыву нам дыктуюць нязломныя ў сваіх апэтытах ведамствы, энэрга- і рэсурсапаглынальныя прамысловыя канглямэрацыі, для якіх даўно не чалавек — мера ўсіх рэчаў, а нешта зусім-зусім іншае, часам увогуле процілеглае паняцьцю чалавечага шчасьця.

## Сындром «мясцовага эгаізму». Як панацэя

Зусім малаверагодна, што ідэя ядравай энэргетычнай пэрспэктывы на Беларусі пройдзе. Чарнобыльскі сындром, пра які даволі часта гаворыцца, здаецца, найменш уласьцівы ўладным структурам, якія прывыклі прымаць рашэньні выключна з пазыцыяў эканамічнай мэтазгоднасьці. Але на гэты раз, калі спроба дойдзе да выбару пляцоўкі, сындром імгненна спрацуе на ўзроўні «мясцовага эгаізму».

Людзі — канкрэтныя жыхары — фізычна адчуюць цень небясьпекі і падымуцца гарою. Гэтак жа, як падняліся жыхары Старадарожскага, Баранавіцкага, а нядаўна і Пружанскага раёнаў, калі ў іх «пад вокнамі» мерыліся «пасадзіць» адзін і той жа завод перапрацоўкі прамысловых адыходаў. Вось вам, калі ласка, маленькая мадэль разьвіцьця магчымых падзеяў вакол будаўніцтва АЭС.

Тэарэтычна можна дамагчыся згоды народу, скажам, праз рэфэрэндум. Практычна згоды гэтае ня будзе ў кожным паасобным выпадку.

Відаць, гэта ня толькі словы, ня толькі эмоцыі: будаваць АЭС — значыць у пэўнай меры паўтараць чарнобыльскі шлях. Той шлях, па якім далей ісьці небясьпечна і нават амаральна. Дык можа лепш мараторыюм?

## За кадрам



**9 траўня 1993 году. Станіслаў Шушкевіч і Вячаслаў Кебіч на Кургане Славы. Ідуць узяўшыся за ручкі, як першаклясьнікі. Паўсюль на публіцы яны дэманстравалі еднасьць і кляліся з розных трыбунаў, што паміж імі "практычна няма разыходжаньняў" ("З ваўкамі жыць — па-воўчы выць"). Паглядзім, што цяпер скажа С.Шушкевіч.**

# Некалькі рэцэптаў для кнігі «Як зарабіць мільён»

Сярэдні працэнт рэнтабельнасьці прадпрыемства ў краінах разьвітога капіталізму звычайна не перавышае 10—12%. Такі бізнэс лічыцца нармальным. Калі прыбытак большы за гэтую лічбу, справамі кампаніі аўтаматычна пачынае займацца эканамічная паліцыя. Калі прадпрымальнік становіцца багатым за годдва, тады ім зацікавіцца і Інтэрпол, бо ўсім вядома, што вельмі вялікія грошы зарабляюцца адно праз незаконны гандаль наркотыкамі, зброяй, радыёактыўным палівам, дыямэнтамі й таму падобным. У нашай жа краіне ўсё наадварот — калі «пад'ём» ня будзе складаць прынамсі працэнтаў дзьвесьце, за такую справу ніхто ня возьмецца.

Пэрыяд буйнога эканамічнага росту ў краінах Захаду спарадзіў у свой час незьлічоную колькасьць тандэтных брашурак з парадамі абываталю, як дамагчыся посьпеху й дастатку. Пераважна аўтары падобнае друкаванае прадукцыі закраналі ў сваіх «творах» маральна-псыхалягічныя аспэкты бізнэсовае дзейнасьці. Пазьней уся гэтая плынь атрымала назоў — карнэгіянства, што паходзіць ад прозьвішча вельмі вядомага цяпер і ў нас Дэйла Карнэгі. У той жа час нават самы павярхоўны аналіз двух апошніх гадоў пэрыяду «дзікага капіталізму», які перажываюць краіны былога разьвітога сацыялізму, дае багаты матар'ял дзеля напісаньня ў нас кнігі самых рэальных рэцэптаў, якія можна выдаць пад вокладкаю «Як зарабіць мільён». Зразумела, што размоваа йдзе пра мільён даляраў, а не...

Сама магчымасьць зьяўленьня падобных парадаў вынікае з адсутнасьці адукацыі й элементарнае культуры ў пераважнае большасьці нашых родных «бізнэсмэнаў» і «нуварышаў».

***Рэцэпт першы***

Трэба ведаць, што ў сьвеце існуе як мінімум тры віды такой меры вагі, як тона — вынік наяўнасьці ў англамоўных краінах традыцыйнае адзінкі «фунт». Так званая брытанская тона мае вагі 1016 кг, рэгістрацыйная (або амэрыканская) — 907,18 кг. Тона мэтрычная, як вядома, роўная 1000 кг.

Разумна скарыстаўшы гэтыя веды, вы заўсёды здолееце прадаць у нас закуплены за мяжою тавар, атрымаўшы пры гэтым пэўную суму грошай сабе ў кішэню, пра што, дарэчы, не здагадаецца ані падаткавая інспэкцыя, ані сам пакупнік.

***Рэцэпт другі***

«Хатні супэрмаркет» — каталёгі кшталту Quelle, Otto, Neckerman — забава для вельмі багатых людзей, каму лянота нават адарваць свой азадак ад фатэля. Зразумела, што кошты ў іх часам у тры-чатыры разы перавышаюць рэальную цану. Гэта трэба ведаць.

Дапусьцім, вы купляеце ў Нямеччыне тавар. Натуральна, што цэны ва ўсіх паперах прастаўляюцца ў дойчмарках. Вы прывозіце тавар на Беларусь і прадаяце яго гуртам за тую самую цану, але ўжо за даляры. Калі ў Вашага пакупніка ўзьнікаюць пытаньні, Вы разгортваеце перад ягоным носам адзін з вышэйзгаданых каталёгаў і хутка пераконваеце яго, што ён атрымаў ваш тавар літаральна «на халяву».

***Рэцэпт трэці — найлепшы***

Трэба ведаць, што, акрамя амэрыканскага даляру, у сьвеце існуюць даляры канадзкія, аўстралійскія, ганконгаўскія... Да прыкладу, апошні зь іх, у залежнасьці ад ваганьня курсу, у шэсьць—сем разоў таньнейшы за даляр ЗША.

Напрыклад, вы купляеце ў Ганконгу партыю куртак коштам 198 мясцовых даляраў за штуку, што складае прыблізна 25 амэрыканскіх, і вывешваеце іх у нашай тутэйшай валютнай краме, не абрываючы цэтлікаў. Натуральна, што прадаяце іх вы за даляры ЗША. Ваш прыбытак узрастае роўна нагэтулькі, наколькі адрозьніваюцца курсы вышэйназваных грошай.

Я ўпэўнены, што калі вы чалавек досыць прадпрымальны і здолееце пасьпяхова скарыстаць мае парады, то ў хуткім часе вы пабудуеце сабе дом, набудзеце Mercedes, а таксама чырвоны пінжак з двума шэрагамі бліскучых гузікаў.

Зычу вам посьпехаў!

**Марк ДАВЫДОЎСКІ**

# Музычныя лозы

**Японскі вінаградар Норыфумі Сёбара вырашыў, што дзьве гадзіны музыкі Баха, Штраўса, Шубэрта й Брамса кожны дзень дазволяць ягонаму вінаградніку павялічыць свой ураджай.**

Ён распачаў гэтую праграму пасьля таго, як даведаўся, што ягоны сусед у горным раёне Нагано пачаў атрымліваць гародніну лепшай якасьці з таго часу, як стаў уключаць на даволі працяглы час клясычную музыку.

Такім чынам, штодня вінаграду даводзіцца «выслухоўваць» «Блакітны Дунай» Штраўса, які, на думку Сёбары, дазваляе лазе «спакойна прачынацца». Расьпешчаныя вінаградныя лозы завяршаюць дзень пад музыку Брамса й Шубэрта, «каб забясьпечыць добры сон уначы».



# «Гвозд» нумара

Ніколі раней слонімская раённая газэта ня мела ў сваіх чытачоў так попыту, як на калядныя сьвяты.

У шапіках трэці нумар газэты быў раскуплены літаральна за некалькі гадзінаў. А той, каму яна не дасталася, атакоўваў рэдакцыю, каб выпрасіць хоць бракаваны нумар. Сакрэт папулярнасьці аказаўся просты — у тым нумары быў надрукаваны расклад руху гарадзкога транспарту.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# У дысбаце — канвэрсія

Пасьля таго як дысцыплінарны батальён, які разьмяшчаўся каля вёскі Заводны Лес на мяжы Слонімскага й Пружанскага раёнаў, быў расфармаваны, вайсковыя й цывільныя чыноўнікі доўга меркавалі, як выкарыстаць гэты аб'ект.

Была прапанова стварыць у казармах дысбату жаночую турму. Аднак ад гэтай ідэі чамусьці адмовіліся і вырашылі зрабіць тут прадпрыемства па вытворчасьці клёцак.

**В.В.**

# Вэрсія міністра абароны

Паводле міністра абароны П.Казлоўскага, летась ва Ўзброеных Сілах Беларусі «отмечено» 13 выпадкаў самагубства сярод салдат і сяржантаў.

Міністар зьвязвае гэта зь «нехорошим поведением любимых девушек».

**В.Р.**

# Клясыкі дагэтуль у цане

Зь сельскага клюба ў в.Белагурна Дзятлаўскага раёну злодзеі скралі барэльефы Маркса, Энгельса і Леніна, якія былі аблямаваныя медзьдзю.

**С.М.**



# Выпіць не зашкодзіць

**Галяндзкія дасьледнікі, якія правялі нядаўна паглыбленае вывучэньне хваробаў сэрца, заўважылі, што мужчыны, якія спажываюць шмат віна, а таксама гарбаты, садавіны й гародніны, значна менш рызыкуюць атрымаць сардэчную хваробу.**

Дасьледнікі тлумачаць гэты фэномэн дзеяньнем флявaноідаў. Яны паглынаюць свабодныя радыкалы, што зьяўляюцца прычынаю хваробаў. Тымчасам, мэдыкі з васьмі эўрапейскіх краінаў абсьледавалі мужчынаў, якія перажылі інфаркт, і прыйшлі да высновы, што асобы, якія елі шмат морквы і зялёнай гародніны зь лісьцем, найменш пакутавалі ад хваробы сэрца з той самай прычыны.

# Назад да Фарэнгейта

**Асацыяцыя Фарэнгейта націскае на Польшчу з мэтаю ўвесьці тэмпэратурную шкалу, распрацаваную фізыкам, які, як вядома, паходзіць з гэтае краіны.**

Шкала Фарэнгейта цяпер шырока выкарыстоўваецца ў Паўночнай Амэрыцы. Пункт замярзаньня вады паводле гэтай шкалы роўны 32, а пункт кіпеньня — 212.

Выдае на тое, што палякі не адмовяцца ад звыклае шкалы Цэльсія толькі дзеля таго, што Фарэнгейт быў іхным земляком.

## Праграма перадачаў 8-га каналу зь 1 па 6 лютага

**Аўторак, 1 лютага**

18.00. Для дзяцей: «Карусэль». Мультфільм «Дон Кіхот» з сэрыі «Аміга і ягоныя сябры».
18.30. Муз. праграма.
19.15. Прыгодніцкі сэрыял «Затока «Небясьпечная»: «Якія жывуць на вадзе»
19.45. «Хіл-стрыт блюз»: «Хатнія разборкі».
20.40. «Відэамода»: «Новы сэзон».
21.10. Камэдыйнае шоў «Схаваная камэра».
21.30. Маст. фільм «Вінаваты ў дзяржаўнай здрадзе».
23.15. Праграма відэаклiпаў.

**Серада, 2 лютага**

18.00. «Карусэль». Мультфільм «Генры Форд» з сэрыі «Аміга і ягоныя сябры».
18.30. Муз. праграма.
19.15. Праграма пра здароўе «Жыцьцёвы выбар»: «Ашаламляльны сюрпрыз».
19.45. «Хіл-стрыт блюз»: «Гарачае лета».
20.40. «Я купляю гэтую жанчыну». 129, 130 сэрыі.
21.30. Маст. фільм «Апошні самалёт».
23.15. Праграма відэаклiпаў.

**Чацьвер, 3 лютага**

18.00. «Карусэль». Мультфільм «Сымон Балівар» з сэрыі «Аміга і ягоныя сябры».
18.30. Муз. праграма «У межах Остына»: «Цішыня Хінахода».
19.00. «Арт-пікчарс С.-Пецярбург» прадстаўляе...
19.15. Праграма мультфільмаў.
19.45. «Хілстрыт блюз»: «Дождж жахаў».
20.40. Роздумы пра джаз.
21.30. Маст. фільм «Экспрэс жахаў».
23.15. Праграма відэаклiпаў.

**Пятніца, 4 лютага**

18.00. «Карусэль». мультфільм «піраміды» з сэрыі «Аміга і ягоныя сябры».
18.30. Муз. праграма.
19.15. Опра Ўінфры Шоў: «Я не магу паверыць, што са мною гэта здарылася».
19.45. «Хіл-стрыт блюз»: «Афіцэр году».
20.40. «Я купляю гэтую жанчыну». 131, 132 сэрыі.
21.30. Маст. фільм «Біцьцё сэрцаў».
23.15. Праграма відэаклiпаў.

**Субота, 5 лютага**

15.00. «Карусэль». Мультфільм «Птушыны шлях» з сэрыі «Аміга і ягоныя сябры».
15.30. Муз. праграма.
16.00. «Я купляю гэтую жанчыну». 127, 128, 129 сэрыі.
17.10. «Хіл стрыт блюз»: «Стэн — супэрмэн».
18.00. Шоў Ігара Карнелюка.
18.30. Шматсэрыйны фільм «Лёс».
19.15. Дайджэст камэдыйнага шоў «Схаваная камэра».
19.50. «Пяць хвілінаў з «Хрыстафорам».
19.55. «Чава-какава». Дзіцячая праграма. Мульфільмы.
20.15. «На сцэне Вульфтрапа»: «Гурт «Голдэн бойз».
21.30. Маст. фільм «Небясьпечная зона-2».
23.15. Праграма відэаклiпаў.

**Нядзеля, 6 лютага**

15.00. Праграма пра здароўе «Жыцьцёвы выбар»: «СНІД. Стрэсы».
15.30. «Я купляю гэтую жанчыну». 130, 131, 132 сэрыі.
16.40. «Шалом зь Ерусаліма».
17.40. Прыгодніцкі сэрыял «Затока «Небясьпечная»: «Кэці і кіт».
18.10. Шматсэрыйны фільм «Лёс».
19.00. Опра Ўінфры Шоў: «Што рабіць у выпадку небясьпекі?».
19.45. Муз. праграма «У межах Остына»: «Відзі Трэвіс».
20.15. Мультфільмы з сэрыі «Прыгоды Сыбэрта».
20.45. «Чава-какава». Дзіцячая праграма.
21.00. Муз. праграма.
21.30. Маст. фільм «Судзьдзя Прыст».
23.15. Праграма відэаклiпаў.



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 30.01.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 139 Наклад 20 000.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12